СУЧАСНАЯ КАЗКА

# Царыцы - ўдавіцы

У адной невялікай арганізацыі жылі-былі, не сумавалі, дакладней, працавалі тры царыцы-прыгажуні. Жыццё іх ішло ціха, мірна. Але раптам здарылася бяда: у іх дружны калектыў уварвалася заўдавелая на сем гадоў жонка Іванкі-дурачка Васіліса Прамудрая. Можа, нічога з гэтага дрэннага і не выйшла б. Ды адной пабач з ёй царыца Несмяяна ўбачыла добрага малайца.

— Тэрмінова праводзім пасяджэнне мясцкома, — аб'явіла Несмяяна. — Заадно з мерапрыемствамі на будучы квартал „прапясочым" і Васілісу Прамудрую.

I „прапясочылі"...

Затым далі слова „вінаўніцы".

— Будзьце вы ўсе такімі ж, як і я, саламянымі ўдовамі! — замест апраўдання сказала Васіліса Прамудрая.

На гэтым і скончылася пасяджэнне. I ўсё пайшло паранейшаму — працавалі мірна і спакойна. Васіліса Прамудрая першыя два дні выходзіла на работу апранутая сціпла. А на трэці паявілася ў ружовай крымпленавай сукенцы і ў чорным парыку. Царыцы аж раты паразяўлялі. Парашылі — не адставаць. Таксама набылі ружовыя сукенкі і чорныя парыкі.

А Прамудрая тым часам апранула блакітную сукенку і сівы парык. Царыцы зноў не адставалі ад яе.

А калі Васіліса Прамудрая прыйшла ў новым пясцовым футры...

Карацей, муж царыцы Несмяяны не вытрымаў і закрычаў:

— Я больш не магу!

— Што, не можаш жонку апрануць! — ускіпела царыца. — Ды без мужыкоў жанчыны апранаюцца ў сто разоў лепш, чым я...

Іхняя спрэчка працягвалася ў судзе і скончылася, як хацела таго Несмяяна, разводам.

Пачаў думаць аб разводзе і муж Алены Чароўнай. Але паглядзіць на сваю прыгажуню, на яе пухленькія вусны, на яе белыя ручкі і зальецца горкімі слязамі. Не хапіла яму сілы і волі зрабіць такі крок. Апрануў па апошняй модзе Чароўную, пакуль не наляцела да яго на базу камісія. Аддалі пад суд. I паехаў ён туды, дзе Макар цялят не пасвіў.

— Царыца Несмяяна і Алена Чароўная без мужыкоў жывуць-красуюцца, — заявіла адночы сваім Гарынычу баба Бабарыха. — А я тваё штаны мыю. Працую, свету белага не бачу. Чым я горшая за іх?

Падала на развод...

— Глядзі ты, — штурхануўшы пад бок Кашчэя Бессмяротнага, заўважыла старэйшы член прафсаюза Баба Яга. — Бабарыха развялася! Васіліса Прамудрая як у ваду глядзела. Збыліся яе словы: усе нашы царыцы-прыгажуні ўдавіцамі сталі.

В. Дружкоў



ГАРЧЫЦА ПАСЛЯ ЕЖЫ

Добра накармілі ў адным доме Кастуся. Пасля вячэры лёгкадумныя дочкі і нявесткі гаспадара вырашылі пажартаваць над ім і паставілі на стол слоічак гарчыцы.

— Выбачай, ласкавы госць, забылі мы пра гарчыцу. Ты ўжо хоць крыху паеш яе.

А знаходлівы Кастусь адказаў:

— Дзякую за гонар і пашану, але ежа, што я з'еў, адышла ўжо далёка, і гарчыца яе не дагоніць.

Ён казаў: раздваенне асобы — гэта калі чалавек прачнуўся, а сумленне яшчэ спіць.

# НІЎКА



ПА ХОДУ ШТОПАРА

*Хоць раз у жыцці*
*Упэўніцца ў адкрыцці*
*У сферы кухні*
*Мужу здараецца.*
*— У ложку не тухні,*
*Вазьмі адкруці*
*Пакрыўку, —*
*Просіць жонка-стараннiца.*
*— А трэба адкручваць*
*У бок які?*
*— Ну, злева направа,*
*Па ходу гадзінніка, —*
*Тлумачыць палова, —*
*Вы ўсе, вахлакі,*
*За пазухай жонак,*
*Як імяніннікі.*
*Такую лухту*
*Даручыць мне каму ж,*
*Як не табе,*
*Мямлявае топала.*
*— Адвінчана!*
*Эўрыка! — ускрыкнуў муж, —*
*Адразу б сказала:*
*Па ходу штопара!*

Рыгор Барадулін

ГУМАР 3

ЗНАЎЦА

— Чаму ты, сынок, так прыглядаешся да мух?

— Хачу адрозніць, якая муж, а якая жонка.

— А як ты іх адрозніш?

— Вось тая, што круціцца каля люстэрка, то жонка, а тая, што нюхае бутэльку, то напэўна муж.

З РОЗДУМАЎ ДОКТАРА ЗНАХАРУКА

Старому пакаленню лекараў было куды лягчэй. Яны добра ведалі латынь і маглі аб чым хочаш гаварыць пры хворых.

НА ЛЕКЦЫІ ПА ФІЗІЦЫ

Настаўнік: — Міколка, дай прыклад выпуклага люстра.

Міколка: — Ваша лысіна, пане настаўнік.

ХТО СТАРШЫ?

Задрыпанец Пятро ажаніўся з задрыпанкай Лідачкай, эканамісткай па адукацыі. Не прайшло пасля вяселля і месяца, як маладая спытала мужа:

— Пятро, а хто ў нас у сям'і будзе старшым?

— Вядома, я! — самаўпэўнена адказаў муж.

— А касірам?

— Аб гэтым яшчэ трэба падумаць.

— А што тут думаць, — сказала жонка, — і старшым і касірам буду я. Няма чаго раздуваць сямейныя штаты!

НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Звоніць Гаспадар кватэры не адчыняе, але пытае цераз замкнутыя дзверы:

— Хто гэта?

— Калі ласка, некалькі крон для жабрака.

— Добра. Падсуньце іх пад дзверы.

*

Дама прыходзіць у клініку, гарантуючую пахудзенне.

— Муж зрабіў мне цудоўны падарунак, але я не магу ў яго ўлезці.

— Мадам, мы вам абяцалі, што пасля нашай дыэты вы ўжо праз месяц зможаце надзець вашу новую сукенку.

— Тут гаворка не аб сукенцы, а аб самаходзе!

*

Заглядаючы ў кратэр вулкана, амерыканскі турыст гаворыць:

— Падобна на пекла, ці не праўда?

Гід у здзіўленні пляскае рукамі.

— Ох, ужо гэтыя амерыканцы! Усё яны бачылі, усюды пабывалі!



— *Колькі раз гаварыў вам не націскаць гэтай педалі ў час аперацыі!*

СЛАБАЯ

У парку сядзіць маладая парачка.

— Што ты зрабіла б, каб я пацалаваў цябе? — пытаецца хлапец.

— Вядома, баранілася б, — адказвае дзяўчына і, памаўчаўшы, дадае, — толькі вось я вельмі слабенькая...

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Галены Яканюк з Барысаўкі змяшчаем песню*

## Wrócą chłopcy z wojny

Wrócą chłopcy z wojny jak należy
Niechaj każda wierzy
I żołnierzy
Czekajcie... czekajcie

Tylko dla was bitwy przeżyliśmy
Tylko dla was z wojny powrócimy
Dziewczyny, dziewczyny.
Wrócą chłopcy jak należy
Niech nam każda wierzy
Czekajcie, czekajcie

Niechaj każda w progu stanie
Chłopców śmierci na sprzedanie
Nie dajcie, nie dajcie.
Wrócą chłopcy z wojny jak należy
Niech nam każda wierzy i żołnierzy
Czekajcie.
Niech co rano każda w progu stanie
Swoich chłopców śmierci na sprzedanie
Nie dajcie.

Tylko dla was będziem chleb smakować
Tylko dla was żywą pijem wodę
Jedyne, jedyne
Niebogie, niebogie.

A ten chleb nam będzie najsmaczniejszy,
A ta woda będzie najczyściejsza
W kochaniu, w kochaniu
W kochaniu, w kochaniu

Wrócą chłopcy... itp.

# Курёзы

ДЗІВОСНАЯ ВЫРАТАВАЛЬНАЯ ХВАРОБА

У наш тэхнічны век у медыцынскай практыцы стала вядомай хвароба, якая называецца аграфобія. Гэтая хвароба праяўляецца ў боязі машын. У прыватнасці, хворы нават не можа перайсці вуліцу, па якой кошчацца адзін за другім аўтамабілі.

Паколькі наяўнасць гэтага захворвання ўстанавіць бывае вельмі нялёгка, некаторыя маладыя мужчыны ў капіталістычных краінах, аказаўшыся сярод беспрацоўных, саромяцца перад сваёй сям'ёй свайго бяздзейснага становішча, і, не знайшоўшы іншага выйсця, абвяшчаюць аб сваім захворванні аграфобіяй.

10 год назад у Глазго стаў пужацца машын мужчына па прозвішчу Рыдле. Яго жонка вельмі перажывала з гэтай нагоды: муж не прымаў ніякіх лекаў, баяўся выйсці на вуліцу ці плошчу.

А нядаўна яна заявіла, што разабралася ў захворванні мужа лепш за ўсякіх дактароў. Падставай для гэтага паслужыў такі выпадак. Аднойчы, вяртаючыся з работы на дзве гадзіны раней, яна заўважыла, як яе муж спакойна шпацыраваў упоперак вуліцы паміж едучых машын. Узрадаваная такой прыемнай нечаканасцю, яна пайшла ўслед за ім і ўбачыла, як шырокая спіна мужа... знікла ў піўным бары. Там яна і застала яго разам з сябрамі-выпівохамі.



Каб даведацца, што думаюць аб вас жыхары вашага дома, не варта хадзіць па кватэрах. Пачакайце, пакуль увесь дом засне, і ўключыце на поўную магутнасць магнетафон. Неўзабаве ў вас не будзе адбою ад людзей, жадаючых сказаць вам усё, што яны аб вас думаюць.

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020